

*Не пакідайце ж мовы нашай беларускай, каб не ўмёрлі!*
***ФРАНЦІШАК БАГУШЭВІЧ***

# Наша слова




**Газета выходзіць з сакавіка 1990 года** **№ 19 (705)** **25 ТРАЎНЯ 2005 г.**

## Зварот

**Сакратарыяту Грамадскага аб'яднання "Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны" з нагоды перайменавання вуліц і праспектаў г. Менска**

Напярэдадні свята Вялікай Перамогі без грамадскага абмеркавання кіраўніцтвам краіны прынятае беспрэцэдэнтнае рашэнне аб перайменаванні галоўных магістраляў беларускай сталіцы. Гэты няўзважаны і паспешлівы крок узрушыў усю Беларусь, закрануў інтарэсы дзесяткаў тысяч жыхароў перайменаваных вуліц, арганізацый і ўстаноў.

ГА "Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны" рашуча выступае за захаванне ў назве галоўнага праспекта сталіцы імя славутага сына беларускага народа, асветніка і першадрукара Францішка Скарыны, 515-я ўгодкі з дня народзінаў якога адзначаюцца сёлета.

Мы звяртаемся да жыхароў перайменаваных вуліц, працоўных калектываў, грамадскіх арганізацый, студэнтаў, усіх грамадзян Рэспублікі Беларусь з заклікам падтрымаць грамадскую ініцыятыву па зборы подпісаў за захаванне назвы галоўнага праспекта Менска. Прапануем усім беларускім газетам апублікаваць бланк збору подпісаў пад патрабаваннем захаваць без зменаў назвы вуліц беларускай сталіцы. Звяртаемся з просьбай да ўсіх беларускіх інтэрнэт-парталаў змясціць на сваіх старонках адпаведны бланк.

Звяртаемся да Менскага гарадскога Савета дэпутатаў з прапановай прыняць захады па абароне інтарэсаў жыхароў беларускай сталіцы ў адпаведнасці з дзейным заканадаўствам.

Звяртаемся да кіраўніцтва краіны з прапановай адмяніць рашэнне, якое не карыстаецца падтрымкай пераважнай большасці грамадзян нашай дзяржавы.

**Сакратарыят ГА "ТБМ імя Ф. Скарыны".** **19.05.2005 г.**

## *Калі за адраджэнне мовы, чытай, спадарства, "Наша слова"!*

У "Нашым слове" № 14 за 13. 04. 2005 г. змешчана інфармацыя пра колькасць падпісчыкаў на 2-і квартал 2005 года. У параўнанні з мінулым кварталам падпіска вырасла на 14 асобнікаў.

Рэдакцыя выказвае шчырую ўдзячнасць чытачам "Нашага слова", якія з'яўляюцца сталымі падпісчыкамі, а таксама тым, хто далучыўся да выдання ў гэтым квартале. Шчырае падзячнае слова адрасуем мастакам Менска. Кожны, да каго мы звярнуліся з просьбай падтрымаць ТБМ падпіскаю на "Наша слова", з радасцю адгукаўся на гэтую прапанову, незалежна ад таго, з'яўляецца ён сябрам Таварыства ці не. Мы спадзяёмся, што ў наступным паўгоддзі гэтак жа дружна "Наша слова" падтрымаюць пісьменнікі.

Асобна хочацца звярнуцца да сяброў нашага грамадскага аб'яднання, якіх у Таварыстве каля 8 тысяч. Мы дзякуем вам за самаахвярную працу на карысць Таварыства і роднай мовы. Выказваем глыбокую павагу за выбар роднай мовы ў вусным маўленні, у пісьмовых зваротах у дзяржаўныя органы, у жаданні быць носьбітам роднай мовы ва ўсіх сферах.

І толькі адно просім актывізаваць: прыйдзіце на пошту і аформіце падпіску на сваю газету, якая не падтрымліваецца дзяржавай.

***Сакратарыят ТБМ.***

Ф. СП - 1

**Міністэрства сувязі Рэспублікі Беларусь**

**АБАНЕМЕНТ** на газету / часопіс **63865** (індэкс выдання)

***НАША СЛОВА*** (назва выдання)

На 2005 год па месяцах:

| 1 | 2 | 3 | 4 | 5 | 6 | 7 | 8 | 9 | 10 | 11 | 12 |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | | | | | | | | | |

**Куды** (паштовы індэкс) (адрас)

**Каму** (прозвішча, ініцыялы)

**ДАСТАВАЧНАЯ КАРТАЧКА**

ПВ | месца | літар — на газету / часопіс **63865** (індэкс выдання)

***НАША СЛОВА*** (назва выдання)

| **Кошт** | падпіскі | **7080** руб. | Колькасць камплектаў | **1** |
|---|---|---|---|---|
| | пераадрасоўкі | руб. | | |

На 2005 год па месяцах

| 1 | 2 | 3 | 4 | 5 | 6 | 7 | 8 | 9 | 10 | 11 | 12 |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | | | | | | | | | |

**Куды** (паштовы індэкс) (адрас)

**Каму** (прозвішча, ініцыялы)

## Ён любіў свой народ

***160 годдзе Мікалая Нікіфароўскага (1845 - 1910)***



Чым далей мы адыходзім ад высокай маралі і купельнай прыгажосці калектыўна створанай беларускім народам традыцыі разумнага суіснавання, тым ярчэй разгараюцца на гістарычным небасхіле зоркі шчырых руплівцаў на ніве беларускага фальклору.

Адным з такіх самаадданых ахвярнікаў быў Мікалай Якаўлевіч Нікіфароўскі, які нарадзіўся 17 траўня ў вёсцы Вымна Віцебскага раёна ў 1845 годзе. Грунтоўную адукацыю атрымаў у Віцебскай духоўнай семінарыі, якую закончыў у 1867 годзе. Настаўнічаў у Віцебску, Свіслацкай і Маладзечанскай настаўніцкіх семінарыях. З юначых год пачаў цікавіцца і вывучаць фальклор, паўсядзённы побыт і культуру беларускага народа. Напачатку 70-х гадоў становіцца найбольш актыўным карэспандэнтам Паўла Шэйна, які на працягу больш дваццаці год публікаваў дакладна зафіксаваныя шматлікія і разнастайныя матэрыялы па этнічнай культуры беларусаў. Запісаныя Нікіфароўскім апісанні калядных свят, абрад і песні валачобніцтва, юр'еўскія і жніўныя рытуалы і песні, купальскія святкаванні і вясельны абрад Шэйн апублікаваў у зборніках "Беларускія народныя песні"(1874) і "Матэрыялах для вывучэння быту і мовы рускага насельніцтва Паўночна-Заходняга краю (т.I-III, 1887-1902)".

"Нарысы Віцебскай Беларусі" (ч.1-8, 1892-1899гг.) сталі першай самастойна выдадзенай выдатнай працай Нікіфароўскага, дзе на багатым жыццёвым матэрыяле ўласных назіранняў фальклярыст падае жывапісныя апісанні носьбітаў і выканаўцаў фальклору, распаўсюджвальнікаў яго – вандроўных старцаў-жабракоў, дудароў, скрыпачоў і іншых музыкаў, адносіны да іх сялян.

Стравы, яду, адзенне, жыллё і гаспадарчыя пабудовы свайго часу, працу сялян Нікіфароўскі падаў у "Нарысах простанароднага жыцця-быцця Віцебскай Беларусі і апісаннях прадметаў ужытку"(1895). На аснове багатага, уласна сабранага фальклорнага матэрыялу Нікіфароўскі выдае працу "Простанародныя прыкметы і павер'і, прымхлівыя абрады і звычаі, легендарныя паданні пра асоб і мясціны" (1897).

Фальклорны гранд-жанр фальклярыст выдаў у зборніку "Простанародныя загадкі", дзе падаў 532 цудоўныя ўзоры, сістэматызаваныя па 10 вялікіх абагульненых тэмах. Першым сістэматызаваным апісаннем персанажаў прыродна-натуральнай, так называемай "ніжэйшай дэманалогіі" стала праца Нікіфароўскага 1907 года "Нячысцікі, звод простанародных у Віцебскай Беларусі паданняў пра нячыстую сілу", якая факсімільна перавыдадзена ў 1995 годзе ў Віцебску. Акрамя загадак, фальклярысту належыць непераўзыйдзенае да нашага часу па сваёй мастацкай дасканаласці выданне збору прыпевак, якія былі апублікавана праз год пасля смерці Нікіфароўскага ў зборніку "Беларускія песні-частушкі"(Вільня, 1911), а таксама працы "Напаўпрыказкі і напаўпрымаўкі, што ўжываюцца ў Віцебскай Беларусі" (1910-1913) і "Напаўпрыказкі - напаўпрыслаў-кі" (1928).

Пладавіты беларускі фальклярыст быў з 1890 года Правадзейным членам Таварыства аматараў прыродазнаўства, антрапалогіі і этнаграфіі Маскоўскага універсітэта і Рускага геаграфічнага таварыства з 1897 года. Залатымі літарамі ўпісаў ён сваё імя ў гісторыю беларускага народа.

***Васіль Ліцьвінка.***

Сяргей Чыгрын

# Жураўліны шлях паэта

## Да 100-годдзя з дня нараджэння Сяргея Хмары-Сіняка

Старшыня Згуртавання беларусаў Канады Мікола Ганько неяк сказаў: "Пра жыццё і дзейнасць Сяргея Хмары можна напісаць цэлую гісторыю, а можна абыйсціся некалькімі сказамі"(Лявон Юрэвіч. Камэнтары. Мн., 1999, с.170). Андрэй Чэмер паспрабаваў напісаць такую гісторыю пра гэтага чалавека. У 1998 годзе ў Вільні ён выдаў кнігу, якая так і называецца "Сяргей Хмара". Але пра самога беларускага паэта, змагара, выдаўца там так і нічога не было сказана. У кнізе аўтар прайшоўся па старонках газеты "Беларускі голас", якую ў Канадзе выдаваў Сяргей Хмара-Сіняк, і працытаваў розныя факты з газетных публікацый. Цікавымі ў гэтым выданні з'яўляюцца хіба толькі "Прадмова" і "Замест пасьляслоўя".

Наогул, пра Сяргея Хмару-Сіняка на працягу першых пасляваенных 50 гадоў у беларускім друку пісалася ўсё толькі адмоўнае. Як маглі, так і палівалі брудам яго ў савецкім друку Л. Прокша, В. Раманоўскі, В. Мацкевіч. І толькі аўтару гэтых радкоў у сакавіку 1991 года ў тыднёвіку "Літаратура і мастацтва" удалося надрукаваць невялікі артыкул-згадку пра гэтага своеасаблівага чалавека. Але і гэтая публікацыя выклікала неадназначны рэзананс у Беларусі і ў Канадзе. У газеце "Зважай" (Таронта, верасень, 1991) Кастусь Акула, прачытаўшы гэтую першую лімаўскую публікацыю пра Сяргея Хмару, выказаў сваё абурэнне. Ён абураўся тым, што Хмара з 1945 года "сядзеў на Пятровым пасадзе Ватыкану", што "Сіняк-Хмара ніколі не навучыўся беларускае мовы і быў ужо ведамым графаманам у паэзіі", што "падтрымліваў і праслаўляў шарлатана "патрыярха" Рыжага-Рыскага", што ў "1952 г. намагўся захапіць Беларускі Выдавецкі Фонд і газэту "Беларускі Эмігрант", а калі тое не ўдалося, пачаў выдаваць сваю газэту "Беларускі Голас" і г.д.

У газеце беларускіх вайскоўцаў "Во славу Родины" (8 красавіка 1992 г.) нехта М. Маліноўскі з Баранавіч напісаў "несколько слов воинствующей ненависти" пад загалоўкам "Иверс против Чигрина" (Іверс — маецца на ўвазе слонімскі паэт Анатоль Іверс - Іван Дарафеевіч Міско - С.Ч.). Справа ў тым, што апісаная дзейнасць Сяргея Хмары ў лімаўскім артыкуле не спадабалася паэту Анатолю Іверсу, і ён аб гэтым выказаў сваю ўласную думку на старонках літаратурнага выдання. А Маліноўскі паводле двух апублікаваных матэрыялаў напісаў свой. У ім ён бяздоказна ганьбіў Сяргея Сіняка і абараняў Анатоля Іверса. Але, на жаль, спадар Маліноўскі шмат чаго не ведаў тады пра лёс гэтых таленавітых, але розных пасвайму характару і меркаваннях паэтаў.

У канцы 30-х — пачатку 40-х гадоў у Слоніме іх усе добра ведалі. Яны пісалі вершы, выступалі на літаратурных вечарах, сустрэчах, друкаваліся ў мясцовай і віленскай прэсе. Гэта былі — Сяргей Хмара-Сіняк, Анатоль Іверс і Сяргей Новік-Пяюн. А яшчэ іх аб'ядноўвала тое, што яны любілі свой край, свой народ, разважалі на роднай мове. Пры палякaх два Сяргеі і Анатоль былі пад наглядам польскай паліцыі, пасля 1939 года — пад пільным вокам НКВД, у гады вайны — страх быў і перад немцамі, і перад савецкімі партызанамі. Менавіна вайна скразною лініяй прайшла праз лёс гэтых хлопцаў, яна іх разлучыла назаўсёды. Сяргею Хмары (старэйшы за іх быў і больш дасведчаны) удалося уцячы на Захад, Сяргей Новік-Пяюн у снежні 1944 годзе быў арыштаваны органамі НКВД, а праз год адпраўлены на 10 гадоў на Калыму. Анатоля Іверса арышты мінавалі, хаця немцы расстралялі яго жонку і бацьку. А сам паэт, жывучы ў Слоніме, да самай смерці насіў кляймо "нацыяналіста". Пасля вайны, як пісаў Васіль Быкаў у сваёй кнізе "Доўгая дарога дадому", Анатоль Іверс "быў звольнены з працы, выключаны з СП і пятнаццаць гадоў прарабіў на смалакурні ў лягасе"(Васіль Быкаў. Доўгая дарога дадому. Мн., 2002, с.319).

Мне пашанцавала ў жыцці з гэтымі людзьмі быць добра знаёмым, шмат гадоў сябраваць. З Анатолем Іверсам сустракаліся і гутарылі часцей, бо жыў ён са мною побач у адным нашым родным Слоніме. З Сяргеем Новікам-Пяюном сустрэчы адбываліся і ў Слоніме, і ў Менску ў яго-най маленькай кватэры на вуліцы Купрыянава. А вось спаткацца з Сяргеем Хмарам не давялося, хаця мы дзесяць гадоў перапісваліся. Шмат гэтыя людзі мне распавядалі пра сваё жыццё-быццё, найперш пра акупаваны немцамі Слонім. І што дзіўна, што кожны з іх у сваім трагічным лёсе абвінавачваў сяброў. Паэты адыйшлі на той свет, але так і не памірыліся. Хаця Сяргей Хмара гэтага хацеў, часам дасылаў ім свае газеты і часопісы. Але хлопцы маўчалі. І хто з іх у чым быў вінаваты — сёння цяжка судзіць. Кожны з іх ратаваў сябе, як мог. І кожнаму з іх у жыцці было нялёгка. Тым не менш, слонімскія паэты не скарыліся, не прапалі, не зніклі. Ды і пражылі яны доўгія жыцці: Сяргей Новік-Пяюн — 88 гадоў, а Анатоль Іверс і Сяргей Хмара — па 87 гадоў. Бог, як кажуць, адмераў ім аднолькава.



*Сяргей Хмара, 1930-я гады*

І ўсё ж самым неразгаданым, розным і супярэчлівым быў у жыцці і застаецца ў гісторыі беларускай літаратуры і гісторыі нацыянальнага руху Сяргей Хмара-Сіняк. Нават месца яго нараджэння падаецца па-рознаму. Адны выданні пісалі, што ён нарадзіўся ў Пінску, другія — у Адэсе, трэція — у Слоніме. Ды і сам ён паведамляе ў сваёй аўтабіяграфіі, што нарадзіўся ў Адэсе (Запісы Беларускага Інстытута навукі і мастацтва. Выпуск 24. Нью-Ёрк, 1999, с.149). І ўсё ж Сяргей Сіняк нарадзіўся не ў Адэсе і не ў Пінску, а ў вёсцы Казлоўшчына былога Слонімскага павета (цяпер Дзятлаўскі раён) 25 траўня 1905 года. А калі яму споўніўся год, бацькі, у пошуках працы, выехалі на Украіну, пасля ў Варшаву, а потым, калі пачалася Першая сусветная вайна, жылі ў Казані, Растове-на-Доне і ў Варонежскай губерні.

У 1918 годзе пры невысветленых абставінах загінуў бацька. Сяргей Сіняк з маці і з малодшаю сястрою вярнуліся ў родную вёску. Вучыцца хлопчыку не было за што. Таму, пасля расійскай пачатковай школы, ён займаўся самаадукацыяй: шмат чытаў пa-руску, па-беларуску і папольску, асабліва зачытваўся раманамі Генрыка Сянкевіча. І вельмі шмат працаваў: пастухом, лесарубам, землякопам, агароднікам, падзёншчыкам у маёнтку, будаўніком... На працы заўсёды дабіваўся справядлівасці. Аднойчы нават кінуў каменем у панскага аканома за тое, што няправільна і мала налічыў заробак. Аканом выгнаў яго з работы і даў мянушку "бунтар". Пасля "бунтара" выганялі з будаўніцтва дарогі за арганізаваны штрайк, пасля, калі працаваў касцом у маёнку, і з іншых месцаў.

У пачатку 20-х гадоў Сяргей Сіняк наладжвае кантакты з сябрамі Беларускай Народнай Рэспублікі, з рознымі адказнымі заданнямі ездзіць у Варшаву, Вільню, Слонім. Ён хутка знаёміцца з беларускімі вайскоўцамі, з прадстаўнікамі творчай інтэлігенцыі — Рамуальдам Зямкевічам, Гальяшом Леўчыкам, Сымонам Рак-Міхайлоўскім, Аляксандрам Уласавым і з іншымі. Становіцца адным з арганізатараў Таварыства Беларускай Школы (ТБШ), арганізоўвае 12 беларускіх школ. У Берасцейскім абласным архіве знаходзіцца, як пацвярджэнне, пасведчанне на імя Сяргея Сіняка, што ён з'яўляўся сябрам ТБШ (ф.2042, оп.1, сп.8869).

У сярэдзіне 20-х гадоў Сяргей Сіняк уступае ў Беларускую Сялянска-Работніцкую Грамаду. На Слонімшчыне ён арганізоўвае 32 гурткі Грамады, якія налічвалі каля трох тысяч чалавек.

У 1930 годзе Сяргея Хмару выбіраюць сакратаром пасольскага клуба "Змаганьне" у Пінску, ён спрабуе заклaсці беларускую гімназію і выдаваць часопіс. Праз год юнак працуе інструктарам Галоўнай Управы ТБШ у Вільні, а яшчэ праз год яго арыштоўвае польская дэфензіва і разам з Браніславам Тарашкевічам саджае ў турму. У час працэсу Грамады польскі пракурор-абвінаваўца назваў С.Сіняка "пятчым рыцарам Грамады". Наогул, Сяргей Сіняк пры палякaх, пры саветах і пры немцах за сваю актыўную беларускую палітычную і творчую дзейнасць адседзеў каля 11 гадоў у турмах. У сваёй аўтабіяграфіі (зборнік "Мы", выданне суполкі "Ускалось" на чужыне, 1949) ён пісаў: "Мае школы — Лукішкі, турмы ў Слоніме, Гародні, Пінску, Берасьці, канцэнтрацыйны лагер Картуз-Бяроза і шмат іншых". Пра яго актыўнасць і смеласць у Заходняй Беларусі паведамляла нават Тэлеграфнае Агенцтва Савецкага Саюза (ТАСС). Гэтае паведамленне апублікавалі ўсе газеты былой вялікай краіны. "Слоним (Западная Белоруссия). 13 октября. Заместителем начальника городского отряда рабочей гвардии Слонима работает широко известный в Западной Белоруссии молодой, талантливый поэт Сергей Хмара. С оружием в руках он охраняет свой город и организует борьбу с притаившимися остатками офицерских бандитских шаек. До прихода в Слоним Красной Армии поэт находился в концентрационном лагере Картуз-Береза. В польских тюрьмах, казематах и лагерях он провел 6 лет. В своих произведениях Сергей Хмара писал о тяжелой доле угнетавшихся панами хлеборобов Западной Белоруссии и выражал уверенность в том, что скоро настанут времена, когда крестьяне будут свободными и счастливыми. Сбылись слова поэта, эти времена настали" — пісала газета "Социалистическая Якутия" 17 кастрычніка 1939 года.

Са зброяй у руках Сяргей Сіняк не ваяваў, а вось пяром валодаў добра. Першы надрукаваны верш з'явіўся ў газеце "Беларуская крыніца" у 1925 годзе. Ён меў назву "Годзі, мы доўга цярпелі, мы доўга хадзілі ў ярме". А праз тры гады паэты і празаікі Заходняй Беларусі выдаюць у Вільні зборнік "Рунь веснаходу", дзе побач з вершамі Хведара Ільляшэвіча, Наталлі Арсеньневай, Міхася Васілька, Яўгена Бартуля і іншых аўтараў надрукаваны і творы Сяргея Хмары-Сіняка. А вось першы паэтычны зборнік "Бунтарнае" і кніга прозы "Шляхам барацьбы" загінулі падчас ліквідацыі выдавецтва "Рунь". Але ў 1939 годзе першая кніга вершаў "Жураўліным шляхам" Сяргея Сіняка пад псеўданімам Хмара ўсё ж пабачыла свет у Вільні.

Зборнічак быў невялікі, ён налічваў усяго 24 вершы. Паэт шчыра апісваў жыццё сваіх землякоў з яго праблемамі і традыцыямі. Цікава і дасціпна паказаў вобразы землякоў і краўчых, а таксама вобраз вёскі. Гэтыя паэтычныя радкі гучалі як заклік да жыцця і змагання. Але ў кожным вершы адчувалася нейкая самота і адзінота:

*Неба начой*
*было яснае, яснае!*
*Белае, белае, — як малако.*
*Недзе жалеза*
*затворамі ляснула,*
*Сумна зайржаў ў хляве конь.*

Мацнейшымі ўсё ж былі ў зборніку радкі, прысвечаныя Прыпяці, Палессю і наогул — роднай прыродзе:

*Цэлы дзень*
*у паветры сонным*
*Кос гарыць пажар.*
*Плача кнігаўка і звоне*
*Травяны абшар.*

Паэт вылучаўся сярод сваіх равеснікаў вынаходніцтвам новых беларускіх слоў, якімі любіў насычаць свае вершы. Праўда, не ўсе яны ў нашай мове прыжыліся. Напрыклад, такія словы як "запраўляч", "шувары", "ладунак".

У 1937 годзе Сяргей Сіняк у Дзятлаве арганізоўвае літаратурную суполку "Маладая Ўскалось". Плануе разам са сваімі равеснікамі і старэйшым слонімскім паэтам Гальяшом Леўчыкам выдаваць аднайменны літаратурны часопіс. Але палякі не дазволілі.

(Заканчэнне ў наст. нумары.)

Рэдактар Станіслаў Суднік

Заснавальнік:
ТБМ імя Францішка Скарыны.
Пасведчанне аб рэгістрацыі:
№ 83 ад 28 чэрвеня 1996 г.
Адрас рэдакцыі:
220034, г. Менск, вул. Румянцава, 13.
Адрас для паштовых адпраўленняў:
231282, г. Ліда-2, п/с 7.
E-mail: naszaslowa@tut.by
http://tbm.org.by/ns/



Аўтары цалкам адказныя за падбор і дакладнасць прыведзеней інфармацыі

Газета надрукавана ў Лідскай друкарні.
231300, г.Ліда, вул. Ленінская, 23.
Газета падпісана да друку 23. 05. 2005 г. у 11.30. Замова № 863.
Аб'ём 1 друкаваны аркуш. Наклад 2000 асобнікаў.
Падпісны індэкс: 63865.
Кошт падпіскі: 1 мес.- 1180 руб., 3 мес.- 3540руб.
Кошт у розніцу: па дамоўленасці.